## БУДУЧЫЯ ЧЫРВОНА-АРМЕЙЦЫ.

Кожны піонэр павінен быць заўсёды гатовым да барацьбы за справу Ільліча—за рабочую справу.

Зразумела, кожны піонэр ня будзе ваяваць з ворагамі, але прынесьці карысьць, іншы раз і вельмі вялікую, ён усё-ж такі можа.

Піонэры не павінны адрывацца ад Чырвонай арміі, дзе служаць іх старэйшыя браты, і трэба заўсёды ведаць, як жывуць чырвонаармейцы.

Комсамольскія ячэйкі трымаюць сувязь з асобнымі часьцямі Чырвонай арміі. Піонэры таксама сумесна з комсамольскімі ячэйкамі могуць зьвязацца з Чырвонай арміяй. Трэба старацца, каб організаваць там піонэрскія куткі, у якіх чырвонаармейцы могуць даведацца, як жывуць організованыя дзеці і пасьля, калі вернуцца дамоў, яны змогуць дапамагчы піонэрам у рабоце.

А як-жа вывучаюць піонэры і вучні жыцьцё Чырвонай арміі? Ці ва ўсіх клюбах, школах ёсьць вайсковыя куткі? Гэтага сказаць нельга.

Дык давайце-ж утворым такія куткі, пачнем організоўваць экскурсіі ў Чырвоную армію, знаёміцца з жыцьцём і бытам чырвонаармейцаў.



Хутчэй бяжэце на апошнюю старонку: там нешта вельмі цікавае...

## ВЫВУЧАЙЦЕ ЖЫЦЬЦЕ ЧЫРВОНАЙ АРМІІ.

Увесь дзень у нядзелю, 28-га студзеня, комсамольцы і піонэры БДВ і рэдакцый газэт правялі ў сваім падшэфным кавалярыйскім эскадроне. Знаёміліся падрабязна з жыцьцём сваіх падшэфных у казарме, аглядалі канюшню, наладзілі сумесны абед з чырвонаармейцамі. Добра і карысна правялі гэтак свой нядзельны адпачынак у падшэфных.

На фотографіі група піонэраў разам з чырвонаармейцамі вывучае кавалярыйскую справу па модэлях і малюнках.

**Піонэр.**



*Цікавыя модэлі і малюнкі.*

## ЯК МЫ ПРАВЯЛІ ВАЙСКОВЫЯ ЗАНЯТКІ.

У сёлетнім годзе пры нашай школе існуе вайсковы гурток, які працуе досыць добра. У першыя дні вывучалі вінтоўку і страявыя занятгі.

Дрэнная дажджлівая пагода перашкаджала страявым заняткам. Але вось выпаў сьнег, замерзла зямля і ўсё тое, што вывучалі тэорэтычна, пачалі праводзіць на практыцы. Аднаго разу наладзілі манэўры, у якіх удзельнічала дзьве групы, каля 120 чалавек. На манэўрах вывучалі, як наступаць і адступаць. Манэўры прайшлі добра.

**Л. А.**

м. Ляды.

## ВАЕНІЗАЦЫЯ ПІОНЭРАЎ.

У атрадзе Ю. П. імя Сталіна добра пастаўлена праца па ваенізацыі піонэраў.

Чырвонаармейцы з падшэфнай роты сувязі праводзяць у атрадзе ваенныя заняткі.

Усе піонеры гэтага атраду ўжо добра ведаюць пабудову процівагазу, знаёмы з рознымі газамі і г. д. Добра было-б, каб усе атрады піонэраў займаліся ваенізацыяй.

**Н. Шнітман.**

## ЗЬМЕСТ.

Год выданьня 5-ты.

Да змаганьня за справу працоўных—будзь гатоў!

УМОВЫ ПАДПІСКІ:
На 1 м-ц — р. 20 к.
„ 3 м-цы— р. 60 к.
„ 6 ц-аў 1 р. 20 к.

# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
МЕНСК,
Комсамольская, 25.

ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ, ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР

№ 3 ЛЮТЫ 1929 г.

# ЗЯМЛІ ПАКАЖАМ НОВУЮ ДАРОГУ!

## У паход за ўраджай.

Комсамол парашыў правесьці ўсесаюзны паход комсамольцаў і сялянскай моладзі за падвышэньне ўраджайнасьці. Перад усімі вясковымі зьвеньнямі і атрадамі стаіць вялікая задача—прыняць удзел у гэтай рабоце. Ці павінны вясковыя піонэры і вучні ўхіляцца ад гэтага вялікага паходу комсамолу за ўраджай?

Ці павінны піонэры і вучні праходзіць міма ворагаў ураджаю—сарнякоў, шкоднікаў, межаў, сохаў, цемнаты і трохполкі? Вядома, не.

Н. К. Крупская ня раз абвінавачвала піонэраў (і яна была права) у тым, што піонэры, зьвеньні і нават цэлыя атрады ня бачаць наўкольнага жыцьця, ня ідуць з ім у ногу.

Лепшым прыкладам для кожнага зьвяна, атраду, школы таго, што яны ідуць у ногу з жыцьцём, удзельнічаюць у наўкольным жыцьці, удзельнічаюць у будаўніцтве новай вёскі зьявіцца—удзел у рабоце па падвышэньню ўраджайнасьці.

## Выконваць маленькія справы.

Умець ужо сёньня выконваць нейкую маленькую, але карысную справу, змагацца супроць усёй беднасьці і адсталасьці вясковага жыцьця—у гэтым і заключаецца ўся сутнасьць новай сыстэмы работы піонэр-організацыі, аб якой шмат гаварылі за апошні час. Якія-ж жывыя грамадзка-карысныя справы могуць правесьці піонэры разам з вучнямі ў вялікім паходзе за ўраджай? Як іх організаваць?

Грамадзка-карысных спраў у барацьбе за ўраджай ёсьць ня мала. Раім пачаць вам з таго, аб чым мы пішам.

Ці думалі вы аб тым, што вы зможаце прарабіць, на першы погляд, невялікую, а на самай справе вельмі важную работу—*вызначэньне ўсхожасьці насеньня.* Калі ваш атрад зможа ў пачатку пасеўнай кампаніі перакanaць беднякоў і серадьнякоў-сялян вашай вёскі, каб яны дазволілі вам вызначыць усхожасьць насеньня, г. зн. якасьць іх насеньня, вы будзеце мець поўнае права гучна заявіць, што вы прарабілі вельмі важную работу ў справе павялічэньня ўраджайнасьці нашых палёў. Вы, вядома, самі разумееце, што ў тых гаспадарках, дзе якасьць насеньня будзе вельмі дрэннай, трэба ўгаварыць прыняць захады, каб здабыць лепшае насеньне, паказваючы, як гэта зрабіць.

## Умець організаваць работу.

Каб прарабіць гэтую работу, ад вас патрабуецца ўсяго толькі організаваць яе, г. зн. разьмеркаваць паміж сабой гаспадаркі, ня кідаць работы, ня кончыўшы яе, не палохацца таго, што хто-небудзь па несьвядомасьці аблае вас ці пасьмяецца над вамі, і самім спачатку навучыцца добра азначаць усхожасьць сямян.

А вось вам другая цікавая работа. Часта сяляне з-за неахайнасьці, няўменьня цаніць і любіць машыну, дрэнна даглядаюць за ёй, і машына псуецца. Піонэры ня могуць спакойна праходзіць міма такіх брыдот, і вось піонэры зьвяна парашылі дзейнічаць, але для гэтага патрэбна настойлівасьць. Бачаць яны, напрыклад, што валяецца на двары барана з іржавымі зубамі, павадыр зьвяна выклікае гаспадара:—Чаму вы дарма псуеце барану? Трымаеце яе пад дажджом? Гаспадар, вядома, пакрыўдзіўся—вам да гэтага якая справа? Піонэры не перапалохаліся—і адказваюць: ня можам мы спакойна глядзець, як машына псуецца—піонэры мы. Адказ такі гаспадара ўжо не раззлаваў, бачыць—сур'ёзныя дзеці гавораць правільна і адказвае—а што-ж, дапамажэце, дзеці, прыбярэм... Дзеці дапамаглі прыбраць у сухое месца ня толькі барану са двара, але й плуг з-пад страхі. Піонэры ўзяліся яшчэ здабыць матар'ял для ачысткі бараны ад іржы.

## Рабіць ёсьць што.

Падумайце, паглядзеце, ці нельга знайсьці такіх-жа фактаў у вашай вёсцы?

Хто-ж паклапоціцца аб тым, каб бядняцкія гаспадаркі не засталіся без насеньня, каб яны мелі таксама ачышчанае зерне. Тут піонэры і вучні могуць пры садзейнічаньні камітэту ўзаемадапамогі, коопэрацыі, сельсавету дапамагчы здабыць ім насеньне. Будуць выпадкі, калі каму-небудзь з беднякоў прыдзецца організаваць колектыўны збор пасеўных зернят сярод сялян. Тут піонэры могуць наладзіць абход па гаспадарках з падпісным лістом і мяшком для збору насеньня для бядняцкага поля. Піонэры павінны дапамагчы адсартаваць насеньне сем'ям чырвонаармейцаў і ўдоваў. Скажэце, ці-ж нельга організаваць пратраўліваньне насеньня ў бядняцкіх гаспадарках? Вядома, можна.

У адным з атрадаў дзеці парашылі, што не павінна быць аніводнага піонэра, у гаспадарцы бацькоў якога не ачышчана насеньне. Праз некалькі дзён на санях у вёску прывезьлі сартыроўку. Піо-

нэры забегалі з хаты ў хату, каб угаварыць бацькоў хутчэй, не чакаючы адлігі, сартаваць насеньне. У піонэркі Жэні гора: угаворы на бацьку ня дзейнічаюць, а як-жа можна ня выканаць піонэрскага слова? Парашыла апошні раз прасіць бацьку. Бацьку прышлося згадзіцца. Пастанова атраду была выканана ўсімі піонэрамі.

А ці-ж так не павінна быць і ў іншых атрадах?

## Працаваць разам з аграномам.

Цікавую работу праводзіў адзін з атрадаў у мінулым годзе. Атрад ня толькі праводзіў гутаркі з сялянамі аб вымачваньні насеньня перад пасевам у распушчаным гнаі, але атрыманую атрадам інструкцыю ад лябораторыі газэты „Бедната“ па вымачваньню насеньня, піонэры абгаварылі на зьвеньнях, а пасьля організавалі курсы па вымачцы насеньня. Папрасілі агранома прачытаць лекцыю на курсах. На курсы хадзіла 30 бацькоў піонэраў. Курсы працавалі 3 дні. Пасьля курсаў 12 сялян правялі вопыт па вымачцы насеньня перад пасевам. Ураджай ад гэтага ў іх павялічыўся. Так могуць рабіць многія атрады.

## Скарыстаем лепшыя вопыты.

А ці чыталі вы ў „Пионерской Правде“, як добра ўдавалася некаторым атрадам наладзіць вопыты над выросьліваньнем многіх агародных расьлін. Давайце ўспомнім, гэта карысна. Пры аднэй з школ ёсьць кавалак зямлі, на якім піонэры і вучні робяць вопыты па выросьліваньню розных гаспадарчых карысных расьлін. Увосень 28 г. дзеці са свайго школьнага агароду прадалі сялянам на 25 руб. караньплодаў.

Дамагайцеся, дзе гэта можна, каб вам адвялі і дапамаглі распрацаваць *кавалак* зямлі пад кармовыя караньплоды. Вазьмеце на сябе ініцыятыву паказаць сялянам пра выгаду ад пасеву кармовых караньплодаў і што на агульным агародзе працаваць лягчэй, чым на асобных індывідуальных градках.

Ці думалі вы аб тым, што попел можа павялічыць ураджайнасьць? Кожны піонэр можа дома, у школе, ва ўстановах вёскі зьбіраць попел для атраднага—школьнага агароду і гаспадаркі бацькоў.

## Птушкі зьнішчаюць шкоднікаў.

Увесну можна загатовіць шпакоўні. Калі возьмецеся за гэту справу, запішаце, дзе вы іх разьвесіце. Прыцягвайце да гэтага дзяцей не-піонэраў. Калі яны з вамі разам будуць працаваць, то зьбіваць і зьнімаць шпакоўняў яны ня будуць. Яны будуць шанаваць сваю працу. Організуйце з дзяцей гурток „прыхільнікаў птушак“. Раім вывучаць шкоднікаў агародаў, палёў, садоў, пра што карысна будзе прачытаць вам адпаведную кніжку.

Піонэры парашылі не гаварыць, а справу рабіць. Знайшлося ў атрадзе 30 добраахвотнікаў-кніганошаў. Літаратуры на 100 рублёў адпусьціў чыгуначны магазын, і піонэры пачалі разносіць кнігі для продажу ў вёскі. Ці-ж у вашым атрадзе, школе ня знойдзецца добраахвотных груп, якія-б узяліся за пашырэньне сельскагаспадарчай літаратуры сярод сялян?

Гэтыя прыклады і дапамогуць атраду і зьвяну організаваць цікавую грамадзка-карысную работу ў вялікім паходзе за ўраджай. Вы бачыце, што можна знайсьці шмат спраў. Аглянецеся добра вакол сябе і вы ўбачыце дзесяткі карысных і цікавых спраў, якія могуць быць праведзены ў час паходу за ўраджай. Вазьмеце такую работу, якая для вас больш пад сілу.

## Працаваць усім.

Як-жа распачаць працу? *Ведайце добра, што толькі пры вашай актыўнасьці, самадзейнасьці, ініцыятыве мы правядзем з посьпехам наш паход за ўраджай.* Памятайце, што трэба самім знаходзіць работу, усім дзіцячым колектывам думаць, як лепш правесьці яе.

Раней, чым вызначаць пляны працы на месяц, разам падумайце, паглядзеце навокал сябе, парадзьцеся з партыйнай, комсамольскай ячэйкамі, сельсаветам, настаўнікам, з аграномам, за што-б вам узяцца ў паходзе за ўраджай ва ўмовах вашай вёскі, каб прынесьці карысьць. Гэтыя прапановы і ўключайце ў плян вашай працы. Абмяркуйце ў сябе на сходах, зьвеньнях, атрадзе, у школе, якую работу ўзяць на сябе. Свой плян і спосабы барацьбы за ўраджай абгаварэце разам са школьнікамі і дзецьмі, якія не наведваюць школы.

Ніводную справу не старайцеся правесьці без дзяцей не-піонэраў. Той атрад добра організуе паход за ўраджай, які павядзе за сабой як мага большую колькасьць школьнікаў-вучняў. Наладзьце сувязь з Цэнтральнай дзіцячай сельска-гаспадарчай станцыяй (Масква, Цэнтр, Б. Чаркаскі 13/14, памяшк. 7), якая шмат у чым вам дапаможа ў вашай працы.

Ці-ж нельга організаваць экскурсіі піонэр-атрадаў, школ у саўгасы, колгасы для таго, каб зразумець перавагу колектыўнай гаспадаркі над індывідуальнай. Нам могуць задаць пытаньне—што-ж гэта мы ўсё будзем займацца сур‘ёзнымі справамі? А гульні, інсцэніроўкі, сьпевы, адгадваньне галаваломак, шашачны турнір, ці-ж мы ўсё гэта закінем? Не. На кожным зборы пасьля школьных заняткаў *трэба пагуляць, пайграць.* Як-жа будзем правяраць сваю работу ў час паходу за ўраджай? Усё будзем запісваць у дзеньніку. На апошнім зборы кожнага месяца колектыўна ўсім зьвяном ацанеце, як выканана работа кожным піонэрам. Можаце на зборы атраду праверыць, што зрабілі зьвеньні. Выдайце насьценную газэту, паглядзеце, як усе піонэры і школьнікі ўдзельнічаюць у паходзе за ўраджай. А жывое прадстаўленьне сялянам-бацьком, што атрад, школа ўдзельнічаюць у сельскай гаспадарцы, што піонэры не займаюцца словамі, а справамі, можна даць на раённай сельска-гаспадарчай выстаўцы, у спэцыяльным піонэрскім кутку „Да дню ўраджаю“. Памятайце, што калі вы нічога ня зробіце, дык і паказваць ня будзе чаго.

Давайце з колектыўнай бадзёрасьцю выступім у вялікі паход за ўраджай.

**А. Рывін.**



# МАРЫЛЬКА





Апавяданьне **А. ЯКІМОВІЧА.**

Малюнкі **М. ФІЛІПОЎСКАГА.**

*(Працяг).*

IV.

Малажавы з твару, з вясёлымі вачыма, начальнік раённай міліцыі, Суніцкі, дапытваўся:

— Ты раскажы мне ўсё ад душы, як бацьку, ня крыўдзіць цябе я зьбіраюся: хто навучыў цябе так зрабіць?

Марылька падазрэнна акінула колкім пытлівым поглядам прысутных і боязна скрозь зубы прашаптала:

— Ніхто, дзядзечка... Сама надзаўмелася.

— А навошта?

Яна ўздрыгнула. Думкі прарэзаў востры сполах. Усё-ж можа быць: а калі прызнаецца яна да раскажуць потым Антолі?

— Га?—з мяккай усьмешкай падцьвердзіў сваё пытаньне Суніцкі.

— Ты, дзяўчо, не страхайся. Малых у турмы ня садзяць. Кажы ўсю праўду, — прыгнуўся з-за стала другі міліцыянэр, гэткі самы малады, з рыжым абліччам.

— Яна абманвала мяне... вымавіла дзяўчына і зноў запнулася.

— Як-жа так абманвала? Абяцялася справіць што і ня справіла?

— Не.

— Дык што-ж за абман?

— Казала ўсё, з плачам, што цяжка ёй жыць ад беднасьці...— узьняла яна ўверх сваела скавыя вочы.

— Ну, які-ж тут абман?—неяк борзьдзенка, зьдзіўленым голасам, вымавіў Суніцкі, разводзячы рукамі.

Іншыя дзядзькі - міліцыянэры таксама зьдзіўлена пераглянуліся.

Марылька пры гэтых словах сама адчула нейкую недарэчнасьць. Сапраўды-ж яно нeяк ня ўлад вышла. Хіба-ж то прычына— абман? Адказваючы так, яна ўсё яшчэ ніяк не магла адважыцца на большае — на выказ усёй праўды. Цяпер-жа ад сьвядомасьці поўнай нясур'ёзнасьці адказу ўсё жаданьне яе выказацца да канца з большай яснасьцю напружылася. Словы, пераплеценыя з гарачымі сьлязьмі, вырываліся самі.

— Усё тое,—што гаварыла яна мне — няпраўда, — узвышаючы голас, гаварыла Марылька. Людзі жывуць бядней за яе, а красьці не цягаюцца... Мне кожную ноч супакою не давала: усё йдзі ды йдзі...

Міліцыянэры насгаражыліся.

— А-а, вось як: куды-ж яна яшчэ хадзіла красьці, апрача саўгасу?—перабіў яе Суніцкі.

— Усюды... па дровы, па маніцы ў рэчку, па палотны... Чужыя дзеці такія сьпяць, а я ніколі не магла выспацца...

— А есьці яна не шкадавала табе?—спытаў другі міліцыянэр.

Дзяўчынка:

— Толькі мякінны хлеб дазваляла есьці.

Міліцыянэр:

— І сама больш нічога ня ела?

Дзяўчынка:

— Яна скупая: усё зьбірае багацьце. Сала, малако—усё, што лепшае—прадае.

— А што за грошы яна спраўляе?

— Нічога. Зьбірае. Кажа, каб я была добрай, дык пакіне мне па сьмерці.

Доўга яшчэ дапытваліся ў яе пра ўсё ў раённым вучастку. Спачатку пыталіся пра здарэньне, што адбылося ўчора. Потым начальнік жартоўна запытаў:

— А калі-б даведалася пра ўсё Антоля, — ці думала ты пра гэта?

— Думала. Неш ня дмала,— бойка адказала яна.

— Што-б ты рабіла, каб гэта здарылася?

— Я думала: заб'юць яе, як майго дзеда некалі...

— Твайго дзеда? За што?—цікавіць Суніцкага.

— Памаўзьлівы быў. Унадзіўся кулі красьці ў суседзяй...

Дзяўчынка гаварыла цяпер сьмела, рашуча, нібы на вуліцы з сяброўкамі. Чорныя, пад колер вугалю, шустрыя вачаняты яе гарэлі дзівоснымі вугольчыкамі абуранай помсты.

Выясьніўшы пра здарэньне ў саўгасе з Антоляй, Суніцкі зацікавіўся мінулым гэтай дзяўчынкі. Марыльцы цяжка было разварушыць у думках боль пераджыткаў, яна прабавала аднеквацца, змоўчваць. Аднак настойлівасьць начальніка і яго дабрадушнасьць падкуплялі яе.

І дзяўчынка спакойна, як магла, пачала апавядаць сумную гісторыю свайго маладога жыцьця.

V.

... Далёка-далёка, за цёмнымі лясамі, глыбокімі рэкамі, люстранымі вазёрамі, дзесьці аж там, дзе сонца хавае свой твар за зямлю (так здавалася ёй), была ў ў іх невялічкая старэнькая хатка, хлеў, гуменца... А поруч такія-ж

будовы суседзяй. І Марылька пільна, напружана стараецца ўлавіць усё, усё дакладна, успомніць так, як гэта было. Ёй хочацца ўспомніць нават, хто жыў там ля іх, якімі выглядаюць яе былыя сяброўкі—Манька, Волька, Жэнька, што разам капаліся на прызьбе ў пяску, пяклі „аладкі“. Але цяжка ёй робіцца ад такога напружанага ўздыму, і малюнкі вёскі неяк мігам зьлятаюць з уяўленьня. Заместа іх усплывае новы малюнак. Яна шчыра апанула сваю Алёхаўшчыну, што там дзесьці далёка, далёка на Горадзеншчыне.

Тысячамі сыпаліся, як каменьні з гары пасьля зямлятрасеньня, людзі. Звалі іх бежанцамі. Ні праехаць, ні прайсьці—на дарогах процьма людзей, драбін, коняй, усялякага ламачча. Толькі енкі і крыкі наўкола:

— Гані, пралезьці дай з малымі дзецьмі! Што-ж гэта робіцца!?

А ззаду, за тлумам людзей,



*Начальнік раённай міліцыі дапытваўся.*

вядае пра гэтыя заўсёды для яе сьвежыя ўспаміны.

... Вайна... Яна мала чаго разумела тады ў гэтым слове. Але добра памятае, што ніхто іншы, як „вайна“ і ёсьць прычынай іх горкай долі. Бо хто-б уздумаў у іншым разе выгнаць яе бацьку, іхніх усіх суседзяй з дзецьмі, іхнюю ўсю вёску, выгнаць у чысты белы сьвет на мор і пакуты? Ва ўяўленьні дзяўчыны вайна пачынае вырастаць у нейкага страшнага, страшнага людаеда... Пра такога людаеда яна шмат чула ад сваёй маткі казак. Яна добра памятае пра лютасьць, злосьць такога людаеда, што зьеў за адзін раз усіх сваіх дзяцей, зьеў жонку і кінуўся ўцякаць у лясы. Вось у лясох і бродзіць ён цяпер. Каго зловіць—ня жыць яму: не ўцячэ ад зубоў людаеда. Сам ён падобны да воўка, вочы па добрым яблыку, апранаха з мядзьвежай шкуры... Такою, уяўляецца ёй, была вайна.

Марыльцы споўнілася тры гады, калі яна назаўсёды пакібыццам тысячы громаў, вухкалі гарматы. Глухія і зьвінючыя выбухі іх на зямлі прымушалі кожны раз уздрыгнуцца. Гэта ішло поўнае адступленьне. Немец прабіваўся з усяе сілы ў глыб нашай краіны. Напорна, як шумлівы вал вадаспада, націскаў ён на нашыя, зьнясіленыя ад бескарыснай барацьбы, палкі. Не магла стрымлівацца наша армія—адыходзіла. А перад арміяй гналі ўсіх жыхароў. Такі загад быў царскі. Бо ня можна было ніяк заставацца ў палоне ў немца. Розныя лягэнды хадзілі пра лютасьць немца. Адны казалі, што немцы ўсіх на штыкі паднімаюць, нават маленькіх дзетак. Бяруць гэта так, садзяць дзяцей на штык і гоцкаюць на ім. Гоцкаюць, а дзеці нема крычаць, пакуль, вядома, не заходзяцца. Нават малюнкі з такімі жахлівымі сцэнкамі вывешвалі на ўсіх вёсках. Старых, дык усіх у хаты зганяюць немцы, а пасьля падпальваюць хаты, аблюўшы газай... Зямлю і тую высмальваюць нейкім праклятым дымам. Калі пусьцяць з бочак такі дым—пылу не застанецца на зямлі. Нічога расьці потым ня будзе... Такія байкі хадзілі пра немца.

Марыльчын бацька сяк-так разам з усімі дабраўся да станцыі. Напралом утышчыліся ў вагон. Сям'і было ўсяго чацьвёра душ—бацькі і брацік Мікола. Пішчом адваявалі ў вагоне куточак.

— Ну, дзеткі, сядзеце,— ня пушчайце нікога ў гэты куток, мне прадаць трэба гнедку і драбіны,—пакінуў нас бацька і вышаў сам з вагону. Матка тупала каля нас. Страшна было адступіцца. На станцыі безьліч людзей. Безьліч вагонаў. Сьвіст машын, грукатаньне калёс, трывожнае іржаньне коняй, плач і енк дзяцей,— усё гэта зьлівалася ў адзін магутны крык разбуранага вайной жыцьця.

— Бывайце, палі і лясы!—махалі дрыжачыя рукі з тых вагонаў, якія ўжо зрываліся з месца.

Вось засьвістаў гудок і нашага цягніка. Засьвістаў раз другі... Крануўся... Пашоў... Бацька справіцца не пасьпеў...

Нема загаласіла матка.

Як лютая ваўчыца накідаецца на ворага, што прышоў патрывожыць яе дзяцей,—кінулася да дзьвярэй матка. Дзікі лямант пад грукат калёс выраваўся праз дзьверы ў поле... Выраваўся ды так і замёр у сініх прасторах.

Гэта быў пачатак іхняй драмы.

Заехалі сяк-так у далёкую Самару. Жылі там. Матка прачкай была. Бялізну багатым мыла. Гэтак і кідалася з хлебам ды сольлю. Марылька з братам, старэйшым трошкі за яе, гулялі, забаўляліся... Часта ўспаміналі бацьку. Прабавалі з першых дзён адшукаць. Заяўлялі туды, сюды. Але ня той час быў, каб можна было цікавіцца каму такімі справамі: не да таго было людзям. Уся ўвага была вайне. Помняцца таксама рэволюцыі... Нават і яны з брацікам выбягалі тады на вуліцу і крычалі, як і ўсе ў Самары: Далоў цара! Далоў вайну!

Мінула рэволюцыя. Голад неўзабаве прышоў. Прышоў і распрасьцёр свае драпежныя крыльлі на ўсё засушанае пякучым сонцам Паваложжа... Сухмень у 20-м годзе ўсё чыста выпаліла—ні калiва збожжа не засталося для людзей. Дастаць адкуль нельга было, кругом войны йшлі...

І зноў галодная сьцюжа пагнала гэтых людзей, бежанцаў, назад: на сваю бацькаўшчыну пацягнула.

— Хоць як-небудзь, але каб дамоў,—часта гаварыла матка,— Там, можа, і тату знойдзем!

— Мамачка, барждждэй, барждждэй...—несупакойна прыставалі да маткі і дзеці, калі пачыналі ўспамінаць пра дом.

Вёска ўяўлялася зноў такою-ж, як і раней: тыя-ж суседзі, тыя-ж хаткі, поле, луг, рэчка... А галоўнае—там бацька. „Ну, куды-ж ён іначай пойдзе, як не назад дамоў?—разважала асірацелая сям'я. Немца няма ўжо...“

Зноў вагон, зноў пакута... Пашанцавала яшчэ, што першымі выехалі з галоднай краіны. Сяк-так карміліся па дарозе. Хадзілі прасіць на станцыях. Хоць рэдка калі хто даваў. Бегалі ў лясы за грыбамі, елі іх бяз хлеба і солі...

Марылька ўжо была дужаватай дзяўчынкай. Яна больш за ўсіх клапацілася, бегала, прасіла дзядзькоў і цётак, каб зьлітаваліся над імі, сіротамі.

Гэтак і ехалі яны цалюткі месяц. Прыехалі, нарэшце, у Менск. Тут стой! Далей нельга: іхняя мілая і дарагая гарадзенская вёска занята палякамі... Туды ня пусьцяць. А тут восень надыходзіць.

— Што рабіць будзем, дзеткі?— з горачу ў сэрцы пытае маці ў малых.

Глядзяць на матку дзеці. Сказаць ня ведаюць што. Чым парадаваць ня ведаюць. Прышлося валачыся ў вёску—шукаць працы. Знайшлі да часу прытулак у аднаго селяніна за хлеб.

Апошняе, што яркай журбою ўсплывае ў памяці Марылькі— хвароба. Цяжкая гнятучая хвароба: гіспанка некая. Пасьля хваробы—засталася яна адна... Па просьбе зьлітаваных людзей узяў яе к сабе бязьдзетны канцавы селянін...

Пра гэта расказала дзяўчына начальніку міліцыі.

VI.

Як сон, ліпуча-цягучы, прамільгнула ўся пражытая мінуўшчына Прашла цёмная навальніца, неба жыцьця праясьнела і ўсьміхнулася проста, шчыра ўсьмешкамі сонца. Валількамі сьветлых надзей закрасавалі думы. Радасьць ад жыцьця бушавала шумліваю рэчкаю. Крыж цяжкой пакуты сплыў у далеч хмар, разам з адгрымеўшымі навальніцамі.

... Новыя людзі, новая праца ў саўгасе акрылілі дзяўчыну шчасьцем і бадзёрай слодыччу. Цяпер яна сьмяялася, гаварыла сакавіта, борзда і моцна. Ні кроплі прыніжанасьці, пакутнай журбы ў вачох яе ня сьвіцілася.

Яе, гэтую шуструю 13-гадовую дзяўчыну, узялі ў саўгас для работы. Далі ёй працу—памагаць старому пастуху Патапу.

Знайшліся і сяброўкі—дачка Патапа, Соня, і дачка каваля, Волька.

Сяброўкі яе вучыліся ў мястэчковай 7-мігодцы. З восені ўпяршыню пачала вучыцца і Марылька. Саромілася спачатку, не хацелася гэткай бальшусе на лемантары сядзець. Але памаглі ёй сяброўкі.

— Не бядуй, сястрыца,—суцяшалі яе,—і не агледзішся, як пралятуць гады. Сёлета ў першай, а колькі год—ты на рабфаку ці ў тэхнікуме.

Сэнсу гэтых слоў пра рабфак і тэхнікум не разумела яна, але адчувала, што нешта нядрэннае, а вельмі добрае замышляюць дзяўчаткі, калі радуюцца ад аднэй толькі думкі—вучыцца далей пасьля 7-годкі.

Яшчэ маленькімі, калі бегалі ў першую клясу, ня раз марылі яны: „Вось, каб гэта ды мы былі настаўніцамі?“ Гэта тады здавалася нечым далёкім і недасяжным, але вельмі-ж прывабным. Быць настаўнікам, які ўсё, усё да кроплі так добра ведае—о, гэта найвялікшае было жаданьне! Настаўнік для іх, здавалася, быў самым найразумнейшым чалавекам. Нават надзвычай сур'ёзны, аж да страхоцьця сур'ёзны, аконам Барышанскі з былога панскага маёнтку здаваўся зусім мізэрным і неразумным чалавекам у параўнаньні з настаўнікам. Бо што калі ён разумнага сказаў ці зрабіў, апрача лаянкі і кулакоў непакорным рабочым?

І Волька і Соня—дочкі батракоў. Ведаюць добра яны цану цемры, дзікай някультурнасьці. Іх бацькі век дажываюць няпісьменнымі, сьляпымі ў жыцьці наўкольнага сьвету. Але ці-ж можна і ім сьледваць за бацькамі?

Новая сяброўка, Марыля, спадабалася дзяўчатам. Яны з ахвотнай радасьцю дапамагалі Марылі пазнаць мудрасьць літараў. Жартавалі часамі з яе, калі сядытады запіналася яна ў чым-небудзь.

— Мацуйся, мацуйся, сястрыца—даганяй нас!

— А вось і даганю,—у адказ на жартлівую прыемнасьць гаварыла Марылька.



*На дарогах процьма людзей, драбін, коняй, усялякага ламачча.*

— Ці бачыш, якая спрытная!

— Паспрабуем: станавецеся разам і па камандзе—раз-два-тры—бягом! Тады будзеце гаварыць, хто каго дагоніць.

Вясёлым шчасьлівым сьмехам рассыпаліся ўсе.

Асабліва любіла завучваць Марылька напамяць вершы, сьпяваць песьні. Відаць, за сэрца закраналі гэтыя песьні. Бо і ў песьнях тая-ж туга, той-жа сум, што на сэрцы ў яе пры ўспаміне аб мінулым, аб бацьках.

Бывала, пачынае вучыць верш „Ля камінку". Пачытае — сьлёзы наверцяцца, кіне. Неяк балюча пячэ за сэрца. Уяўляе тады яна такую самую хатку, як і ў вершы апісваецца, бацьку, маці... „Дзе ён родны"—вечнае горкае пытаньне для Марылькі.

Заўважаць гэта сяброўкі.

— Што з табою?

— Нічога,—спакойна адказвае яна.

Сяброўкі ня ведалі ўсяго гора Марылькі. Ім было вядома, што яна сірата, папала да іх ад нейкай праклятай бабы. Ведалі так-сама ўсю гісторыю з гэтай бабай, якая прышла разам з Марылькай красьці гародніну, і што Марыльцы надакучыла гэткае жыцьцё. Яна папярэдзіла загадчыка саўгасу. Праз гэта бабу злавілі і трохі на ўспамін ускінулі ёй хлопцы. А цяпер пасадзілі ў папраўчы дом. Радасна спаткалі ўсе рабочыя саўгасу такі



*Пасьля школы ішла ў хлеў.*

ўчынак Марылькі. Досыць забаўнай была выдумка.

У саўгасе шмат чаго новага ўбачыла дзяўчына. Яна пачала разумець сапраўдную працу, яна ўбачыла ўпяршыню такіх добрых людзей—рабочых. Для яе адчыняліся цяжкія дзьверы ў іншы, лепшы сьвет жыцьця. Расчыняўся і блішчэў пад сонцам новых дзён лепшы шлях, па якім трэба было ісьці ёй разам з дружным колектывам—усім саўгасам. Шмат працы маруднай і клапатлівай трэба было аддаваць, каб ісьці па гэтым шляху. Толькі зусім не ранейшай была гэта праца: працаваць хацелася, бо хацелася жыць. Калі чалавеку жыць ня хочацца,—праца для яго гэта толькі атрута, якая зьмяншае дні яго існаваньня. Кожны цяперашні дзень вабіў да сябе новымі даляглядамі, зіхацеў жывою каляровасьцю. Сёньня яна асіліла лемантар, заўтра чытае кніжку, газэту. Яна ўжо акуратрая наведвальніца піонэрскага атраду... Яе абяцалі скора і ў атрад перадаць... Марылька ўсё-ж іншы раз як быццам палохалася нечага, скардзілася ўсё, што нічога ня ведае, што ёй трудна будзе працаваць у атрадзе і нагул яна ад усіх вельмі адстала. Але шчырая прыхільнасьць сяброваk абнадзейвала яе жаданьні.

Калі-ж прыбягала Марылька з школы—памагала тады працаваць Патапу: ішла ў хлеў. У Патапавай хаце яна жыла разам з Волькаю, дачкой Патапа.

Марыльцы асабліва падабаліся ў хлявох падлеткі-цяляткі, жарабяткі... Паіць іх пойлам, чысьціць іх, адбіраць для іх лепшае мурожнае сена—была яе справа. Пакоцяць яе, бывала, цялядкі, вывярнуць—не пакрыўдзіцца на іх яна. Яшчэ больш прывязваецца да гэтых дурасьліўцаў, гутарыць з імі, песьціцца, дэклямуе ім вывучаныя вершы.

Юнасьць пульсуе, пераліваецца ў маладых жылах. Мо' таму так і пакахала яна ўсё жыцьцё, асабліва жыцьцё маладое — жыцьцё поўнае энэргіі, бадзёрасьці, поўнае веры і надзей.

Дзівіцца з яе Патап.

— Ну, дзеткі, будуць з цябе людзі. Па ўсім відаць. Як да навукі, так і да работы... Ого-го... Бывала, сын у мяне быў. Такі здатны, такі здатны... Да ўсяго быў...

І дзед пачынае крыўдную і горкую для яго гісторую жыцьця. Ён спаважна, кашляючы час ад часу, слова за словам, з шчырасьцю і бацькаўскім каханьнем апавядае пра любімага сына...

— Пашоў, дзеткі, пад немца— там і капут... Вайна, вайна ці гэтулькі згубіла народу... — канчае стары.

# ПАЧЫНАЕМ ПЕРАКЛІЧКУ.

*Да ўсіх піонэраў Менскай арганізацыі.*

*„Комсомольская Правда" на сваіх старонках праводзіць усесаюзную пераклічку—абмен вопыту комсамольскай арганізацыі.*

*Менская арганізацыя ЮП выклікана прыняць удзел—абменьвацца вопытам работы атрадаў і школ.*

**Атрады!** *Раскажэце, як пастаўлена ў вас працоўнае выхаваньне, як вы організуеце свой адпачынак, як удзельнічаеце ва ўзмацненьні абароназдольнасьці СССР. Апішэце, як праведзена мінулым летам работа па аздараўленьню і як вы рыхтуецеся правесьці яе ў гэтым годзе.*

**Вясковыя атрады!** *Якую сельска-гаспадарчую работу вы праводзіце?*

*Школы, што вы робіце для дапамогі дзецям беднаты, як у вас пастаўлена працоўнае выхаваньне? Пішэце, якую работу праводзяць фарпосты і самакіраваньне. Як школа вядзе барацьбу з нацыянальнай варожасьцю, рэлігійнасьцю, мяшчанствам. Як арганізавана клюбная работа.*

*На ўсесаюзнай пераклічцы піонэрам Менскай організацыі баявое заданьне:—безадкладна на саветах атрадаў і фарпостаў, на зьвеньнях, сходах, школьным самакіраваньні абгаварэце гэта пытаньне і адкажэце сваім вопытам на выклік аб удзеле ў пераклічцы.*

*Матар'ялы накіроўвайце: Менск, Комсамольская вуліца, 25, Рэдакцыя „Беларускі Піонэр".*

**Прэзыдыум Мен. АБ ЮП.**

І ў гэты час зноў віхрам кружыцца ў думках дзяўчыны ўсё той-жа людаед. Чамусьці і дагэтуль ніякага іншага параўнаньня не знаходзіць яна для вайны, як людаед. Яна зноў засмучаецца, зьнікае з твару радасьць.

Глядзіць тады жаласнымі вачыма на пранізаную жыцьцём, доўгім пад'ярэмным жыцьцём у панскім маёнтку, згорбленую постаць сівога дзядулі Патапа і ёй хочацца плакаць, сьлёзы крыўды і за сябе, і за дзеда Патапа сьвіцяцца ў чыстых дзіцячых вачох.

Было над вечар. У гаі на высокіх бярозках дагарала апошняе сонца. Чыстая, як шкло, прастора вільгатнела. Кроў жыцьця ў прыродзе пульсавала шпарчэй, калі мінулася дзенная смага. Быдла ў гэтую пару больш чым калі сьпяшаецца, завіхаецца з ядой. Трава памякчэла, і аваднёў няма. Ціха. Рэчка шырока разносіць у паветры свой асаблівы вільготны пах, які зьліваецца з вячэрнім сьвежым туманам.

Дзед Патап з Марылькай-падпасычам пасуць быдла. Быдла цяпер галавы не адгінае ад зямлі—можна спакойна пасядзець і штонебудзь зрабіць. Дзед даплятае кош, а Марылька майструе сабе лапці. Дзед замяняў ёй родных бацькоў, любіў яе, даглядаў, як і дачку сваю. Вучыў яе мудрасьці жыцьцёвай, настаўляў да ўсяго. Ён загаіў збольшага сьвежыя раны яе пачуцьцяў.

Палоску за палоскай, вузенькія такія, у жаночым гусьце выразае дзяўчына з мяккай толькі што абадранай лазы на свае лапціцыганчыкі.

— Глядзі, вушкі шырокія не пастаў,—кажа дзед Патап.

— А я сьляпыя спляту.

— Сьляпыя? Ці бач! Як гэта лапці сьляпыя... Куды-ж тады выйдзеш у іх. І на пашу не патрапіш,—жартуе дзед.

Дзед, пад натуру, любіў жартаваць. Жарты заўсёды абнадзейваюць чалавека, адганяюць ноткі засмучэньня з душы, выціскаюць іх.

* * *

З усходам сонца будзіць Патап свайго памочніка:

— Уставай, каток. На раніцу пара нам.

Неўзабаве загаманіла труба, рассыпаўся пошчак у палёх, абудзілася жывёла, абудзіўся і гай, і поле, і людзі. Раніцай, на золку, яшчэ так сьвежа, ядрана, водыр ад зелені вее прыемнай асалодай, целам чалавек становіцца бадзёры, прахалода асьвяжае яго.

Быдла выгналі пад рэчку, у гай. Гэта мясьціна адна з тых прывабных, якія шмат дзе ўпрыгожваюць малюнкі прыроды ў нашай Беларусі. Густы кустарнік, што раскінуўся ажна цэлыя вёрсты ўздоўж ракі, укучаравіўся лістотаю і ўяўляе з сабе зялёнае прывабнае мора. Між кустоў — рознае карчаўё і зялёная сакаўная трава. Трава ў гэтым годзе вельмі-ж родзіць. Дажджы праз увесь год не забывалі пра зямлю і падсыпалі жывіцельную вільгаць для яе.

У гэтых кустох, частка якіх служыла пашай, зьнікалі каровы аж да паўдня. Пастухі бавіліся больш усяго ля рэчкі. Тут Марылька лавіла рыбу картафляным кошыкам, купалася, а дзед пёк бульбу, плёў кашы. Дзед ня любіў купацца.

— Вады баяцца старыя косьці,— казаў ён, калі клікала яго Марылька.

— У вадзе, дзядуня, ачуняеце, амаладзееце!.. — шчыра жартуе дзяўчына.

— Дзе там, дачушка. Не на тое хіліць. І маладыя людзі і то мруць, як мухі, а мне...—дзед безнадзейна махнуў рукою. Праз хвіліну ён зноў аказаўся, усё пра тое-ж.— Вось надай, летась, малады зусім яшчэ чалавек і—капутнуў... лёгкае яму паляжанейка... Нейкі бежанец з-пад Горадзеншчыны. Адзін жыў... Сумаваў заўсёды, небарака... Таксама скардзіўся на вайну... А мне, што ўжо казаць.

Дзед чамусьці часьцей пачаў сёлета скардзіцца на нядужасьць. Больш успамінаў нябожчыкаў.

Апавяданьне дзеда гостра ўкалола сэрца Марылькі. Нейкае нядобрае млоснае прачуваньне ахапіла яе. І разам з гэтым прамільганула думка: запытацца, можа з нашых хто-небудзь? Шмат іх па сьвеце белым рассыпалася магіламі...

— Дзядуня, хто ён такі? Як яго клікалі? З якой ён вёскі быў?—з дрыжэньнем у голасе спытала дзяўчына.

— Вёскі якой—добра ня ў памяць: ні то Аляксееўка, ні то Алёхаўка. Не скажу, бо ня ведаю. А зваўся—Міхалам.

І дзед зноў спакойна, спаважным тонам пачаў гаварыць пра гэтага чалавека, што ён ведаў пра яго, якім ён быў.

Марылька больш ня чула дзедавых слоў. Першыя словы дзеда пераканалі яе, што чалавек той—ні хто другі, а бацька яе.

Яна ўпала на калені дзеду і доўга, доўга так ляжала, рыдаючы і ўсхліпваючы.

... Дзед ня скора даведаўся, чаго так плакала дзяўчына...



*Весела і здорава катацца!*

# ШТО ПАСЕЕШ—ТОЕ І САЖНЕШ.

*П'ЕСКА ДА СЬВЯТА СЯЎБЫ*—С. П.

А с о б ы:

| | |
|---|---|
| А н т о с ь к а<br>Г а н у л ь к а<br>Р ы г о р к а | прадстаўнікі ўсіх дружных дзяцей, сьвяточна адзетыя |
| Т а м а ш З р у й н а в а н ы<br>Я н к а Б я з д о м н ы | беднякі |

Д з е д П а л і к а р — з вялікай сівою барадою і з палкаю.

Ц і т Ц і т а ў З а г р а б а л а ў — гандляр, з доўгім носам, хітры і пранырлівы, у капоце.

М а л а д з е ц - П л у г.

Б а б у л ь к а - С а х а.

### Выступленьне

*Наперад сцэны выходзяць трое дружных, кланяюцца публіцы.*

А н т о с ь к а. Ушанаваньне — бацьком, дзядулькам і бабулькам. Гэй, вы, маленькія, як шпулькі, наперад разам.

Г а н у л ь к а. Сёньня дзеці даюць прадстаўленьне. Мы ўсе ня можам зьмясьціцца на сцэне, дык будзем гуляць за ўсіх.

Р ы г о р к а. А калі будзем сьпяваць альбо заліваццa сьмехам, дык падхватвайце разам дзеля большай пацехі.

А н т о с ь к а. Зараз пачнём, але з умоваю: хто ня прывёў маму ці тату...

Г а н у л ь к а. Той павінен расказаць, калі прыйдзе ў хату, што ім рабіць трэба.

А н т о с ь к а. Такі наш наказ усім дружным!

Р ы г о р к а. Пратрэце вочы, адчынеце вушы!

А н т о с ь к а. Слухай і глядзі, хто ахвочы! *(Выходзяць са сцэны, пасьля іх зьяўляецца Заграбалаў, задыхаўшыся).*

З а г р а б а л а ў. Здаецца, я спазьніўся? А так бег, аж пот ліўся. А гэтыя дзіцяняты, як качаняты, пралезьлі наперад. Але нічога, мо' і мяне хто паслухае! Хто мяне ня ведае, такіх мала. Я—мясцовы гандляр і кулачок, Ціт Цітаў Заграбалаў. Гандлюю я тут з пракон веку, дапамогу даю кожнаму чалавеку і ў царкву хаджу кожную нядзелю. Раблю вам папярэджаньне, ня слухайце гэтых дзяцей, бо яны, як зьбянтэжаныя, падсоўваюць розныя новыя законы, жывеце так, як жылі дзяды і прадзеды. Ня слухайце, што яны радзяць вам! Я ім абвяшчаю вайну. Я ім пакажу!

*(На сцэну выбягае Рыгорка).*

З а г р а б а л а ў. Трымайце гэтага чорціка чырвонага, лавеце яго шалёнага. *(Выбягае за Рыгоркам за сцэну).*

### Абразок 1-шы.

*На сцэне пасярэдзіне плякат з надпісам уверсе „Коопэрацыя“, направа лаўка, на якой дзед Палікар храпе лежачы. Убягаюць трое дружных, будзяць дзеда.*

А н т о с ь к а. Гэй, дзед, ачніся! жаўрыкі прыляцелі.

Р ы г о р к а. Дзед, пара ўжо падняцца з гэтай пасьцелі, пара за работу брацца на полі.

Д з е д *(прачынаючыся).* Чаго прычапіліся смольлю, пару ведаю і бяз вас. Прыйдзе час, дык і выйду на поле.

А н т о с ь к а. Час прамаргаеш, будзеш без ураджаю.



*Дапамогу даю...*

Г а н у л ь к а. Дзед, чым найранеей ары папар!

*(Дзед храпе).*

Р ы г о р к а. Дзед, дзедка, пажар! *(Дзед ускаквае).*

Д з е д. Дзе гарыць, кліч людзей!

А н т о с ь к а. Зямля гарыць, трэба араць хутчэй.

Д з е д. Фу, згінь ты, нячыстая сіла! Пасьпяшыш, людзей насьмяшыш. Вось пасьля вялікаднюю, ды пасьля Юр'я.

Р ы г о р к а. Позна будзе! Пакуль не засохне зямліца, пакуль ёсьць на ёй вадзіца, выяжджай араць.

Д з е д. Маўчаць! Дзе гэта бачана, каб яйцы курыцу вучылі. Пражывём і бяз вашай рады.

Р ы г о р к а. Эй, дзедка, твой лоб цьвярды, карысьці не разумее, не разумее праўды.

Г а н у л ь к а. Дзеці, пакажам яму, хай-жа знае!

А н т о с ь к а. Возьмемся самі за справу, хай дзед пазнае ўнукаў.

Р ы г о р к а. Нам дапаможа аграном і яго навука.

А н т о с ь к а *(публіцы).* Памятайце, каб былі ў сьвірне поўныя засекі...

У с е р а з а м. Папар
трэба
араць
рана!
*(Выходзяць).*

*(Уваходзіць Заграбалаў).*

З а г р а б а л а ў. Сьпіць дзядуля, дзякаваць богу, не кранула яго новая трывога. Ну, няхай сьпіць. *(Чуваць сьпеў „Ах ты, доля“...) (Гаворыць у бок).* Паглядзім, хто гэта крочыць. Дай пратру крыху вочы. Можа з іх зьдзяру якую крошку. *(Уваходзяць з абодвых бакоў Янка Бяздомны і Тамаш Зруйнаваны).*

Б я з д о м н ы. Вясна на дварэ, а ў мяне ў кішэнях пуста! Ды хлеба няма ні лусты. Проста хоць вешайся на асіну.

З р у й н а в а н ы. Прыдзецца есьці мякіну.

З а г р а б а л а ў. Шкада мне вас, шкада! Але што тут за бяда, я вырашу гэта труднае пытаньне. Вам пазычу мяшок насеньня, а вы ўвосень тры аддасьцё. *(Заграбалаў згаварваецца з беднякамі, піша з імі ўмову і ідзе за насеньнем. Бедны застаюцца адны. Сумна ківаюць галовамі. Прыходзяць дружныя).*

Б я з д о л ь н ы. Эх, жыцьцё!.. Праз гэткія ўмовы жабраваць ісьці прыдзецца.

Р ы г о р к а. Ага, ён зноў за кошт беднага народу жывіцца.

Б я з д о л ь н ы. Эх, як пазбыць нам гэту бяду.

З р у й н а в а н ы. Альбо ісьці да яго, альбо ў ваду.

А н т о с ь к а. Пачакайце, браткі! За справу трэба іначай узяцца.



*Дзе гарыць, кліч людзей!*

Нам трэба аб'яднацца. Паасобку ён нас кожнага сагне, як саломку. Аб'яднаемся—наша возьме.

Рыгорка. У коопэрацыю трэба запісацца, кулак атрымае тады трасцу. *(Дзеці ўгаварваюць беднякоў запісацца ў коопэрацыю).*

Антоська. Дадуць нам насенную дапамогу.

Ганулька. І там, дзе сошкай аралі, як рогам, загудуць трактары на бязьмежных аблогах.

Рыгорка. Аднаму трактар—трудная справа, а ў калгасе—нічога дзіўнага.

Ганулька. Годзе каштоўны час траціць дарма—усе, як адзін, будзем будаваць гаспадарку колектыўную. Коопэрацыя — гэта шлях адзіны, праз які з рук кулака вырвем бедняка-селяніна. *(Ідуць да плякату. Дзед прачынаецца, паглядае ў бакі).*

Дзед. А мо' яны праўду казалі, іх-жа вучаць ня дрэннаму. Гэй, сошка-блошка, вылазь. Гэй вылазь, бабуля рагатая! *(Вылазіць саха, шапяляе).*

Саха. Навошта клічаш мяне гэтак рана, араты?!

Дзед. Эх, так, мы з табою крыху не даспалі, рагатая! Але-ж паслухаем дзяцей, мая ты дурогая, мо' шчасьце знойдзем на нашых дарогах.

Саха. Ой і баюся-ж я, каб не зламаць мне нарога! *(Уваходзяць дзеці).*

Рыгорка. Пабачце, дзядуля ўжо прачнуўся, устаў!

Ганулька. Навошта-ж ён саху паклікаў.

Дзед. Ну, дзеткі, паслухаю я вас, выеду ў поле ў гэты-ж час. Але папа паклікаць трэба, каб ён адчытаў малебен.

Ганулька. Дзед, мы і без папа абыйдземся, з песьняй па полі пройдземся, ня трэба нам папоўскіх прычытаньняў.

Дзед. А гром мяне не заб'е за гэта?

Рыгорка. На тое лета, але не на гэта, у чацьвер пасьля дождждыку.

Дзед. Ну, дык няхай павашаму будзе.

Антоська *(публіцы)*. Глядзеце і памятайце!

Ганулька *(паказваючы на саху)*. Толькі ня шмат праедзем на гэтым зайцы.

Рыгорка. Гэтай сошцы пара ўжо на могілкі, вось што!

Саха. Што за няўважлівыя адносіны?! Я сотні гадоў працавала на людзей з вясны да восені.

Ганулька. А вось зараз з табою пагаворыць наш сябар—Плуг.

Саха. Хай яго зьесьць іржа, хай яму зойме дух!



*Проста хоць вешайся..*

Плуг. Ну, бабулька, ідзі ў адпачынак!

Саха. Ах, ты гнілая аўчына! Якое маеш на гэта права?

Плуг. Пра мяне на сьвеце ходзіць слава. Ты, як курка, зямлю толькі грэбаеш, а я яе перакопваю як трэба. Кожны разумны гаспадар толькі мною карыстаецца. Чаго ты ўсьміхаешся?!

Саха. Мне ёсьць чым ганарыцца! Нават сам Адам араў мною зямліцу.

Плуг. А вось Трактар—мой брат старэйшы. Вось мы паглядзім, хто з нас цяпер дужэйшы. *(Тут пачынаюць лаяцца, лаянка пераходзіць у бойку. Плуг выганяе саху).*

Дзед. Во, во, так і трэба. Пацiскаў ёй рэбры. Ну, дзеткі, вазьму сяўню і ў дарогу.

Рыгорка. Ані, ні! Ні да парогу! сяўнікам толькі сеяць можна!

Дзед. А дзе-ж на сяўнік вазьму грошай?

Ганулька. Эх, дзядуля, ня трэба нават шмат турбавацца! Сяўнік мы знойдзем у коопэрацыі.

Дзед. Ах, мае вы любыя, ах, мая вы зьмена! Вы вядзіцё мяне наперад.

Рыгорка. Каторы табе год?

Дзед. Дзесяткаў восем будзе.

Рыгорка. Ты крыху перарос піонэраў.

Антоська. Ну, пойдзем! *(Выходзяць. Прыходзіць Заграбалаў з поўным мяшком і пустым).*

Заграбалаў. Ух! Проста заняло дух. Зараз рассыплю насеньне, памагу бедняком, а восеньню ўсё-ж нейкі дармовы пудзік пападзе ў кішэню. Гэй, Заграбалаў, скачы, скачы! *(Сьпявае, скача).* Дзе-ж дзеліся гэтыя смаркачы? Мусіць, пашлі ў сельсавет рабіць данос! Цяпер у газэту кожны суне нос. *(Уваходзіць Антоська).*

Антоська *(Заграбалаву)*. Ну, дзядзька, бывай!

Заграбалаў. Ты мяне ня страш, цюхцяй! Пры зямлі сядзіш яшчэ як волас, а ўжо падымае голас.

Антоська. Ты, дзядзька, так не сьпявай! Прышла бяда і ў твой край! Хто самагонку гнаў? Хто гнільлё прадаваў?

Заграбалаў. Божа мой, адкуль ён усё ведае? Што тут пачаць? Хлопчык, я табе дам абаранак, ты будзеш маўчаць? Ай, ай, памажы дзе-небудзь мяне схаваць!

Антоська. Ну, пашкадую цябе, галубок! Лезь у мяшок. Я скажу, што ў мяшку насеньне! *(Заграбалаў лезе ў мяшок. Усе прыходзяць на сцэну).*

Рыгорка *(гаворыць не сваім голасам)*. Дзе Заграбалаў? Для яго ня будзе ўжо збавеньня. Прыехаў суд!

Антоська. Яго няма ўжо тут.

Рыгорка. Ня веру ў твой адказ. А што ў мяшку? Чаму ў ім шавеліцца нешта і тарчыць, як сук?

(Канец на наступнай старонцы).

# ЛЕС УЗІМКУ.



Зіма.

Пашлі мы ў лес. Колькі там сьнегу! Усе дрэвы ў сьнягу. А некаторыя кусьцікі і зусім занесла сьнегам, толькі вяршынкі тарчэць. Спужалі мы з-пад аднае елачкі зайчыка. Выскачыў ён і пабег хутка, хутка. Засталіся на сьнягу яго сьлядкі.

— А я ўлетку тут знайшла сем баравікоў,—кажа Наста.

— А мы вось на гэтай палянцы пасьвілі коні ўлетку,—дадаў Пахом:—тады мы тутака чарніц пад'елі — чорныя раты парабіліся!

— А птушачак тут колькі ўлетку,— кажа маленькая Яўгіня:—а як яны добра сьпяваюць. Я вельмі люблю птушачак.

— Але-ж і ўзімку лес вось які прыгожы,—дадае хлопчык Васілёк і пазірае навокал сваімі задумёнымі вачыма:— глядзеце, колькі срэбных зорачак—паказвае ён, разводзячы рукамі.

— А што гэта так жалобна сьвішча і шорхае?—пытаецца маленькі Грышка.

— Ці ты ня ведаеш? Гэта нечы бацька па дровы ў лес прыехаў,—адказвае яму Янка:—Чуеш?— дрэва сьпілаваў? Трашчыць і стогне дрэва; рухнула на зямлю.

Ціха стала ў лесе. Толькі скрыпіць сьнег пад нагамі. А ўначы чуваць у вёсцы, як выюць тут галодныя ваўкі.

А. Цітава.



Першы паветраны шар.

---

Антоська. Насеньне і карыта для прамываньня.

Рыгорка *(б'е палкаю па мяшку)*. Тут сьмяцьця шмат.

Бяздольны. Бі, бі, тут злодзей.

Заграбалаў *(з мяшка)*. Ой, ой, годзе! Пусьцеце мяне, я дам вам абаранак.

Антоська. Не абаранак, а хамут калі бедняком дасі, дык выпусьцім цябе зусім. Даеш згоду? *(Б'е.)*

Заграбалаў. Вазьмеце гэтую паперу. Ой, ой, дзе дзьверы? *(Бяруць паперу. Заграбалаў уцякае)*. Пачакайце, я з вамі разьлічуся!

Рыгорка (*тупае нагамі*). Пузач, ратуйся!

**Разьвязка.**

*Усе апрача Заграбалава, стаяць у вадным раду.*

Антоська. Ужо зараз скончыцца гульня-забава.

Рыгорка. Хай кожны слухае, ніхто не пазяхае.

Антоська. Вясеньнім гоням слава!

Дзед. А восеньню хай слава будзе ўраджаю.

Антоська. Прыслоўе памятай: што пасееш, тое пажнеш.

Бяздольны. Будзем рабіць усё пановаму, каб было ўсім добра.

Зруйнаваны. Хто пойдзе з сахою, той будзе з торбаю.

Ганулька *(зьвяртаючыся да ўсіх)*. Цяпер, дзеці, пойдзем па вёсцы хадзіць, народ будзіць, усім напамінаць, што пара ўжо араць!

Антоська. Усе хаты мы абыйдзем.

Рыгорка. З песьняй дружнаю мы пойдзем! *(Усе пяюць)*.

Гэй, сяляне, годзе спаць!
Час работу пачынаць!
Гэй на поле, гэй на нівы,
Выйдзем дружным калектывам,
Выйдзем шчыльнаю сям'ёю
З плугам першай баразною!
Чым раней араць папар,
Тым ён большы дасьць нам дар.
Чысьць насеньне, чыстым сей,
Гэй-жа ў поле, гэй-жа, гэй!

*Усе ўдзельнікі дзеці—у вопратках і грымах з сьцягам і плякатамі і ўсе іншыя дзеці радамі абыходзяць хаты з песьняю, стукаюць і напамінаюць пра сяўбу. Пасьля ладзяць гульні.*




Жыў да быў шчупак на сьвеце.
Вялічэзны быў шчупак!
Ні на вуду, ані ў сеці
Не трапляў ён аніяк.
Яго слава расьцьвітала
І ў нізінах і ў высі.
І пакутвалі нямала
З гэтай славы карасі.
Што ні дзень—яшчэ ахвяра.
(Ў карасёх адменны смак).
Гэтак правіў і ўладарыў
Вялічэзны цар-шчупак...
Раз нагнала бура хвалі,
Ўсхвалявала ціш ракі.
І ў надоньне паўцякалі
Карасі і шчупакі.
Уцякаюць друг за другам,
Гэты гэтак, гэты так...
Напароўся на каругу
Вялічэзны цар-шчупак...
Напароўся і заенчыў
На усе куткі ракі.

„Ой, браточкі!.. Гэй-жа, зьдзеньце
З той каругі, дзяцюкі!..“
Карасі хутчэй на ўцёкі...
Глянуў вокал—ні душы.
І сьмяюцца толькі з боку
Вострапёрыя яршы...
Ўвесь заплыў шчупак крывёю,
Паглядзеў—ажно ў баку
Карасі плывуць гурбою
Праз сьцішэлую раку...
Тут скананьне шчупаку!..

* * *

Жыў да быў шчупак на сьвеце,
Покі бок не прапароў,
І мінула ліхаценьне
Для яршоў і карасёў.
Вось вам казка вышла, дзеці,
Прачытайце-ж: дзе і як
Жыў да быў на белым сьвеце
Вялічэзны цар-шчупак!

Дзядзя Ўладзя.

## ЗІМА Ў ВЁСЦЫ.

Люблю сваю вёску
зімовай парой:
тут шэрань на дрэвах
зіяе красой;
тут сьнег на палянах
іскрыцца-гарыць,
а шчокі палаюць
румянцам зары.

Уюцца ў паветры
сьняжынкі-краса
і сыплюцца пухам
на вёску і сад.
Вось цягнуцца з лесу
з дрывамі вазы;
па рэйках крыштальных
скрыпяць палазы.

На санках, лядзянках
грамадка дзяцей...
Іх радасьць сягоньня
за сонца сьвятлей.
Вось толькі што з школы
прыбеглі дамоў,—
дык трэ' пагуляць ім
вясёлай гурбой...

Атулена вёска
заснуўшай ракой.
І сьцелецца поле
бель-морам наўкол.
Пад сьнежнаю коўдрай
сьпяць нівы палёў,
што сонцам засьвецяць
увесну ізноў.

За вёскаю дрэміць,
бы казачны дзед,
шчыр-бор, што ў сьняжынкі
прыгожа адзет.
У хвойках і елках
жыцьцё не засьне,
бо сьняць яны казкі
аб цёплай вясьне...

Я. Івашын.


*Паветраны шар цяперашняга часу.*



*На малюнку—галава мухі і галава малпы. Гэткае падабенства атрымалася ад таго, што галаву мухі павялічылі ў многа разоў.*




*Апавяданьне вучня* **Г. Гавака.** *Мал. вучня* **Саматыя.**

— Ну, скажэце, людзі добрыя, нашто я яго нарадзіла!? Ах, каб ты сьвету ня бачыў!—крычала на ўсю вуліцу, выскачыўшы з хаты, баба Акуліна, жонка Зьмітрука Шышлы, самага беднага селяніна ў вёсцы, на свайго сына, Міколку, які на ўсе лапаткі ўцякаў ад хаты, цягнучы жмут блiскучых, медных правадоў.

— Пачакай, пачакай, хай толькі прыедзе бацька, ён табе дасьць! Гэта-ж толькі паглядзець: учора вядро, сёньня дрот, а заўтра каня ці што іншае выцягне! Пачакай, пачакай, пачакай!..—І Акуліна доўга шчэ' крычала-б, але ўспомніла, што пакінула ў печы малако і, падабраўшы спадніцу, пабегла ў хату, моцна стукнуўшы дзьвярыма.

* * *

Міколка сядзеў ля пня і разглядаў сваю „гаварылку“. У руках у яго быў стары запэцканы нумар „Піонэра“. Зьвяраючы ўсе віньцікі і правады па часопісі, Міколка праканаўся ў тым, што ўсё правільна. Навушнікі, купленыя Міколкам, ляжалі каля яго. Усюды было ціха.

Раптам недзе трэснуў сучок, Міколка настаражыўся. Ён ведаў, што нехта ідзе, але хто—невядома. З-за хаты паказаўся твар з рыжай бародкай, доўгім тонкім носам і рэдзенькімі вусамі.

„Бацька! О, будзе,—падумаў Міколка.—Але я скажу:—тата, ня бíся... Я заўтра зраблю гаварылку...“

Нечакана для сябе, Міколка апошнія словы выказаў голасна.

— А-а-а! Сукін кот! Вось што-о! На-ж табе за гэта! (І бацька моцна перацягнуў Міколку пугай раз, другі).

— Та-а-атачка, за што?—заенчыў Міколка.

— За тое, што вядро сьцягнуў, што бацькі і маці ня слухаеш,— вось за што.

— А я табе за гэта радыё пабудую, слухаць будзем. — Стараючыся, каб не заплакаць, казаў Міколка.

—Што, радзіву. Брашы больш,— ня верыў бацька.

— А вось-жа зраблю, вось паглядзі, тата, гэты апарат, завецца ён радыё-прыёмнік. Я сам яго зрабіў,—стараўся ўгадзіць Міколка бацьку.

— Які гэта радзіва—паломнік, гэта-ж цацка Юрку, з дроцікамі.

— Хай сабе будзе цацка. Заўтра паглядзім,—сказаў Міколка.

— Ну, ідзі есьці, радзіва ты, жыва!—сказаў бацька, завярнуўся і пашоў у бок хаты.

— Іду, іду!—згаджаўся Міколка, хаваючы „гаварылку“.



*На-ж табе за гэта!*

* * *

Быў цёплы ясны дзень. Сонца бязьлітасна паліла зямлю і ўсё, што на ёй знаходзілася. Дзень быў сьвяточны, а таму моладзь весялілася, а пажылыя сядзелі на бярвеньнях, грэючыся на сонцы. Міколка і яго таварыш Аркадзь шпарка беглі да яру па „гаварылку“. А вось і яр. Вось і кусты. На ўсім ляту Міколка скокнуў з абрыву і апынуўся ў белым пяску. Вось знаёмы пень, куст...

А вось і „гаварылка“!—крыкнуў Міколка.—Аркадзь, Аркадзь, хадзі сюды, панясем. Аркадзь скокнуў к Міколку.

— Давай панясу.

— Бяры. Я панясу навушнікі і правады. Во зьдзівім людзей! І сябры ўдваіх зашагалі па пыльнай дарозе. Не прайшло і пяці хвілін, як Міколка з Аркадзем нясьлі па вуліцы бліскучыя правады і скрынку-прыёмнік. Народ зьдзіўлена глядзеў на іх, а нехта з бярвеньня крыкнуў:

— Радзіва панесьлі!

Гэтага крыку было даволі, каб поўсяла апынулася каля хаты Зьмітрака Шышлы.

У сярэдзіне двара рабілася нешта надзвычайнае.. Міколка нацягваў на жэрдку провад, а Аркадзь прыладжваў драўляныя „ізалятары“. Калі ўсё было гатова, жэрдку ўсьцянулі на рабіну і прымацавалі дротам. Другую ўсьцягнулі на хату, прывязалі за комін дротам, а з усіх бакоў прымацавалі дротам. Атрымалася вельмі прыгожа. Адзін провад быў праведзены ў хату, а другі—з хаты ў зямлю, дзе стаяла вядро. Пакончыўшы з усім, Міколка важнецкім выглядам насунуў навушнікі і пачаў круціць трубкі.

— Ну, што? Чуваць?— пытаўся Аркадзь.

— Ёсьць! Гаворыць!— На ўсё горла закрычаў Міколка, ды так прарэзьліва, што бабы са страху папрысядалі.

— Тата! Тата!.. Ты ня верыў. Ты біў мяне, дык на за гэта паслухай!—закрычаў Міколка.

Зьмітрок з вінаватым відам адзеў навушнікі. На вачох яго блішчэлі сьлёзы, мімаволі выплыўшыя ў гэтую радасную хвіліну..




Верш *з жыцьця Заходняй Беларусі* **А. Мацэральніка.**

*Мал.* **Філіпоўскага.**

1

Дзіка вецер вые, плача каля плоту,
Замятае сьнегам шэрых хатак рад,
Вые і сьпявае, стукае ў вароты,
Цешыцца на волі, бы чагосьці рад.

Эх, раздольле ветру, — ёсьць дзе разгарнуцца.
Носіцца, сьпявае, з стрэх салому рве,
Гойсае па волі, стукае у сьцены
І паміж завулкаў плача і раве.

Мяцеліца злая перастаць ня хоча:
Карагодзіць вольна, сьнег кладзе на дол,
Замятае сьнегам шэрыя будынкі...
Усюды бела й бела, дзе ні глянь вакол.

2

Ля прысад дубовых, ля палацаў панскіх,
Дзе дарога ў вёску віецца праз лог,
Вязнучы па пояс у глыбокім сьнезе,
Жабракі паволі к вёсцы йдуць удвох.

Першы бел, як месяц, з барадой сівою,
Абадраны, ў лапцях, ледзьве, ледзьве йдзе,
А маленькі хлопчык цягнецца з сумою
І за руку старца паціху вядзе.

Мяцеліца злосна сыпле сьнег у вочы,
Вецер глуха вые, круціцца ля іх,
А яны бясьсільна топчуцца па сьнезе,
І ўсё далей, далей цягнуцца ўдваіх.

3

Адчынілісь дзьверы і вецер-дуроньнік
Сьнегу кучу ў хату подыхам надзьмуў,
І пачаў круціцца і гуляць па сенях,
Пачынаць старую, вольную гульню.

„Пахвалёны ў хату“,— так сказаў, і, шапку
Зьняўшы з галавы, ён падышоў далей.
„На векі, жабрача,—кажа гаспадыня,—
Падыходзьце бліжай, ды будзьце вальней“.

А маленькі хлопчык, зачыніўшы дзьверы,
К дзеду асьцярожна, боязна ідзе,
Дзе той з гаспадыняй, аб жыцьці-нядолі
Мерным складам мовы гутарку вядзе.

Пад крысом у дзеда схована бандура,
То жабрачы, бедны, гарамычны скарб,
Выглядам старая, абдзёрта, пабіта,
Без таго мастацтва, бяз прыгожых хварб.

Узяў яе у рукі стары дзед пахілы
І правёў рукою, а бандура—дар—
Запела прыгожа, застагнала цяжка,
Застагнала сумам цёмна-чорных хмар...

4

Падыходзіць вечар, цямнець пачынае,
Старац з сіратою па вёсцы ідзе,
Заходзіць у хаты, а бандура тая
Песьні успамінаў жаласна вядзе.

Але час дадому — адпачыць-жа трэба.
Вышлі ўдаль у поле старац з сіратой,
Дзе так вые вецер, плача і галосіць,
Дзе, як і раней, ён заняты гульнёй.

А мароз праклятый цісну́ў, лепш ня трэба.
(Ну і быў-жа люты і марозны год!)
„Зьліпаліся вочы, кроў у жылах стыла“,—
Так казаў тутэйшы вясковы народ.

Жабракі у лесе. Рукі, ногі скрэплі,
Твары пабялелі, самі ледзь ідуць.
„Сядзем, мілы хлопча“,—кажа хлопцу старац.
І яны прыселі крыху аддыхнуць...

А вецер праклятый песьню ім сьпявае,
Нібы над сыночкам матка над сваім,
Мяцеліца сыпле мяккі сьнег у вочы,
Сьцелючы са сьнегу пасьцельку двайм.

Вые завіруха паміж тоўстых хвояў
І гудзе хваёвы стогадовы бор,
Пяе вецер глуха—хаўтуры спраўляе...
Рвецца на раздольны, вольністы прастор...

*№ 5 часосопісі будзе цалкам прысьвечаны паходу піонэраў за ўраджай. Шлеце допісы, які ўдзел прымаюць піонэры ў пасеўнай кампаніі.*

# СТАРОНКА ФОКУСАЎ І ГУЛЬНЯЎ

## МОРСКІ БОЙ.

*(Гульня).*

Гуляюць двое. Кожны бярэ па 2 квадраты паперы ўклетку такія, каб у квадрацє было сто клетак. Гэта значыць 10×10 (гл. рысунак). Справа, зьверху ўніз, ставяцца лічбы ад 1-го да 10-ці, а наверсе, зьлева направа, літары ад „А“ да „К“ уключна.



На гэтых клетках і расстаўляюцца судны: 1 броняносец, 2 крэйсары, 3 міханосцы і чатыры падводныя лодкі. Броняносец займае 4 клеткі, крэйсары—па 3, міханосцы—па дзьве, падводныя лодкі—па аднэй клетцы.

Усе судны становяцца абыяк, але каб нідзе не дакраналіся паміж сабою. Судны ставяцца так, каб удзельнікі гульні ня ведалі іх разьмяшчэньня адзін у другога. Паказваць квадраты супраціўніку ня трэба.

Задача ўдзельнікаў выбіць з строю варожыя судны. Дзеля гэтага пачынаецца „перастрэлка“.

Вядзецца яна так. Уявім, што судны ў нас разьмешчаны, як паказана на рысунку. Супраціўнік, пачынаючы гуляць, кажа: „Е дзевяць“. Гэта значыцца, што ён страляе ў клетку „Е дзевяць“. З прычыны таго, што на гэтай клетцы знаходзіцца ваша падводная лодка, дык вы закрэсьліваеце яе і кажаце: „Забіта“. Пападаньне ў якую-небудзь цэль дае права на чарговы выстрал. Супраціўнік кажа: „Б адзін“. На гэту клетку прыпадае ваш мінаносец. Але дзеля таго, каб „забіць“ яго, патрэбны два выстралы (у яго дзьве клеткі) і вы кажаце: не „забіты“ (як у першым выпадку), а—„папаў“. Тады супраціўнік ведае, што дзесьці поруч ёсьць другая занятая клетка, і стараецца нашчупаць яе. Калі ён пападае добра (у „адзін“), дык „забівае“ мінаносца і мае права на наступны выстрал да таго часу, пакуль не пападае „міма“. Тады пачынае страляць другі ўдзельнік гульні і г. д.

Верх бярэ той, хто барджэй перастраляе ўсе судны супраціўніка. Дзеля таго, каб „забіць“ падводную лодку, трэба папасьці ў яе клетку; каб вывесьці з строю мінаносца, трэба папасьці ў дзьве клеткі, якія ён займае, крэйсара—у тры і броняносца—у чатыры.

На сваёй карце ўдзельнікі адзначаюць вынікі выстралаў супраціўніка, а на кантрольнай—свае выстралы па карце супраціўніка. Непападаньні адзначаюцца кропкай, пападаньні—працяжнікам, а зусім „забітыя“ судны—крыжыкам.

Вось і ўсе ўмовы гульні.

*Ваша карта*: супраціўнікам у вас забіты: адна падводная лодка і мінаносец. Ёсьць адно пападаньне ў крэйсар (Е 7). Кропкамі адзначаны непападаньні. Поруч павінна знаходзіцца такая-ж карта супраціўніка (дзе разьмешчаны сілы супраціўніка, вы, зразумела, ня ведаеце). На ёй вы адзначаеце свае ўдары.

## ЦІКАВЫ ХІСТАЛЬНІК.

Налі вадою да краёў і накрый кавалкам тугой паперы шырокую пасудзіну так, каб пад папераю не аставалася пузыркоў ад паветры. Ты, напэўна, ведаеш, што шклянку, накрытую такім чынам, можна перакуліць і вада ня выльлецца. Ціск паветра на паверхню паперы зробіць з гэтай паперы моцнае дно, якое будзе трымаць ваду. Зрабі такі вопыт і прыгледзься да таго, як яго трэба рабіць, каб не праліць на сябе ваду.

Калі ты добра навучышся рабіць гэты вопыт, ня ўздумай каму-небудзь яго паказаць, гэты вопыт вельмі добра ўсім вядомы, і ты, як фокусьнік, рызыкуеш на ім апячыся. А вось слухай пра другі вопыт, які грунтуецца на тых-жа зьявах, але які больш цікавы і менш вядомы.

У сярэдзіне кавалку картону пракалі дзірку і працягні ў яе нітку з вузлом на адным канцы яе, другі канец ніткі падвяжы к столі. Дзірку ў картоне з ніткай заляпі воскам.

Налі даверху вадою якую-небудзь шклянку з плоскім верхам, паднясі яе пад картон і прылажы шчыльна бокам шклянкі пад ніжнюю паверхню картону. Калі пры гэтым пад картонам не астанецца пузыркоў паветры і край шклянкі добра змочаны вадою, дык ты спакойна можаш апусьціць рукі і шклянка будзе вісець пад картонам. Цяпер ты можаш прымусіць шклянку гайдацца на доўгай нітцы накшталт хістальніка.

Твой фокус з выгляду вельмі рызыкоўны, на самай справе вельмі верны і гэты дзіўны хістальнік можа вісець і хістацца ў працягу ўсяго дню. Посьпех гэтага вопыту —верны, але першыя вопыты ва



ўсялякім выпадку лепш было-б рабіць з такімі шклянкамі, якія ня б'юцца.

## ЗЬНІКШЫ ПЯТАЧОК.

На ногаць сярэдняга пальца правай рукі прыклейце кавалачак воску так, каб яго, па магчымасьці, нельга было бачыць.

Стаўшы перад гледачамі, паднімеце правую руку далоньню да гледача і закасайце рукаў. Прапануйце каму-небудзь палажыць вам на далонь грыўню; потым, прытрымліваючы манэту сагнутаю далоньню, пакажэце прысутным, што грыўня знаходзіцца на далоні. Хутка скамячэце руку, лёгка націсьніце грыўню ногцем з воскам і таксама хутка раскамячэце руку і пакажэце зьдзіўленым гледачом, што грыўня на іх вачох зьнікла. Гэты фокус патрабуе некаторага навыку, але вы, вядомая рэч, ня станеце паказваць ніводнага фокусу, не прарабіўшы яго некалькі раз раней сам-на-сам.




ГУМОРЫСТЫЧНАЯ ГАЗЭТА ПІОНЭРАЎ
№ 3.

# КРЫТЫЧНЫЯ ЛІСТЫ-ПЯКУЧКІ ВОЖЫКА-КАЛЮЧКІ

## АЛЬБО СПРЭЧКІ ВОЖЫКА З РЭДАКТАРАМ.

Аднойчы ў рэдакцыі „Піонэра“ застаў я, Вожык, рэдактара з узьнятымі ўгору валасамі, вылупленымі зьдзіўленымі вачыма:

— Што з табою, паміраеш?— крычу я, аслупянеўшы.

— Не, не паміраю,—кажа,—а чытаю...

— І гэта ад чытаньня?

— Але-ж, ад чытаньня, мусіцьжа ад чытаньня,—узьняў угору зьбялеўшы твар рэдактар і сіплым голасам адказаў.—На, браце, хіба ты пачытай, ты чалавек, можна сказаць, сёе-тое мікіціш у творах. Можа я памыляюся.

— Ды як-жа ня так: я, можна сказаць, сам вершамі пішу. Даёш— Вожык гэта можа.

Бяру жмут вершаў. Чытаю.— Ого!—крычу на рэдактара.—Ды гэта-ж, браце, такія вершы— любата! Колькі тут новага—і зьмест, і рыфмы, і граматыка, можна сказаць, нейкая новая, і словы—новатворы. Вось так і відаць, што чалавек, які ня піша вершаў, а рэдагуе толькі іх, не заўважыў тут дыямэнтаў.

— Стой, стой, ня бушуй, Вожык!—крычыць мне рэдактар.— Будзь чалавекам рэдакцыйным і паспрабуй мне паказаць, што дзе добра, а што дрэнна.

— Гм... — думаю, — мабыць, праўду чалавек кажа. — Давай пакажу яму. Добра! Чаму-ж не паказаць. Бяру першы верш „Толькі“ і чытаю:

Узьніміся, вецер,
Па нячыстаму шляху,
Тады кожны будзе ведаць,
Што капут кулаку...
Мо і ты...

— Стой! стой!—ня стрымлівае рэдактар майго захапленьня,— падумай, што ты прачытаў!

— Верш, вытрыманы ў мастацкім прыгожым стылі, вецер б'ець кулака і г. д.,—кажу.

— А ці-ж добра гэта ўсё? Дзето чувана, каб вецер змагаўся з кулаком, а не бядняк у саюзе з серадняком?

Падумаў я, падумаў:

— Праўда,—кажу, зьніжаючы голас.—Вінават! Далучаюся да твае думкі. Але няхай так, пачытаем другі верш *Радзіеўскага*:

...І вось загулі нудна словы:
„Магутны Ленін наш памёр!..“
*Як стопудовы молат сталёвы*
Ударыў па сэрцах працоўных.

— Ну,—кажу я,—Вожык—жывёла жывучая і трывалая, а ад таго параўнаньня нэрвы лопаюцца. А што, каб „стопудовым молатам“ ды стукнуць аўтара?

— Лепш прышпілі яму калючку, і то з яго хопіць,—раіць мне сакратар рэдакцыі.

— Знайшоў! — крычу, — тэма, што палагаецца, напэўна і верш добры.

„Вакацыі“

Ужо стары год праходзіць міма,
*Зьмяняе* новая пара.
І вучні так сустракаюць, міла
Вакацый вольны час. „Ура!“

— Хопіць! – крычыць.—Досыць! Набор слоў, ніякага тут вершу і няма!

— Няма—няма. Будзем шчупаць яшчэ.

Пад шум лістоў,
Пад ляcканьне жалеза,
Пад сьпеў гудкоў,
Лірычны гул калёс...
Аддасца ў мармурах
Наша марсальеза,
Крыштальна вырубіцца
Кветка—тканы лес...

Тут і ў мяне духу не хапіла. Такую траскатню разьвёў *Есьман*, як ляшчотка. Але, прызнацца, лірычны гул мне не падабаецца. Мне падабаюцца ў вершах прыгожыя вобразы, граматна, сладка і зразумела для кожнага выказаная думка. А тут—нічога, за выключэньнем „высокага штылю“ слоў, якія нічога ня выказваюць. Ну, няхай і гэты дрэнны. Возьмем яшчэ. Пук вершаў вялікі.

Родная староначка
Беларуская
Ад усіх старонaчак
найляпейшая“..

— Дык гэта ж усім вядомая беларуская песьня, толькі ўсяго аўтар *Задонскі* прычапіў няўдалае апошняе слова!

— Ці бачылі,— кажу,—ня ведаў я, што вучні і піонэры красьці ўмеюць. Мы, Вожыкі, і то зладзейства ніколі не дапускаем. Чытаю яшчэ:

Поўнач, злая стужа на дварэ трашчыць,
Месяц ваблакамі шэрымі пакрыт.
У бальшога дому ў вуліцы глухой
Роўнымі шагамі ходзіць
савецкі часавы.

— Ды гэта-ж у міліцыю трэба заяўляць!—бунтуюся я.—Гэта-ж сапсаваны аўтарам *Баравіцкім* расійскі верш.

Цяпер я ўжо не спрачаўся, а проста для цікавасьці чытаў:

Вось на гэты раз я сабраўся напісаць
Як нашы піонэры любяць працаваць.
Я дагэтуль ня пісаў,
Потаму што „Беларускі Піонэр“ ня выпісываў.
Вось зьвенавы аб'яўляе
І ў панядзелак зьвеньневыя заняткі назначае.
(З вершу Рабіновіча Л.).

**Кулаком па кулаку.**
Верш *Я. Беразінскага.*

Залезьлі яны, кулакі,
Як тыя шэрыя павукі,
У наша давер'е,
*У наша пазнаньне.*
Вядома кулак—
Там ня нейкі галдак—і г. д.

**Далей чытаць няма цікавасьці.** Усе пад адну мерку. Больш, парашыў я, ня буду спрачацца з рэдактарам аб якасьці вершаў бо яны, *бясспрэчна,* няўдалыя і іх пісаць—толькі паперу псаваць.



ЦАНА 12 кап.






## 1. ЗАДАЧА.

З часу сьвяткаваньня Х гадавіны Кастрычніка ў піонэрскім клюбе засгаліся дзьве лічбіны, якія віселі наддзьвярыма. Яны былі зроблены з дрэва і абцягнуты чырвонай матэрыяй. З сярэдзіны яны асьвятляліся электрычнымі лампачкамі.

Калі надышла XI гадавіна, піонэры з лічбін „10“ зрабілі „11“, разрэзаўшы адну з лічбаў на дзьве часткі.

Як яны гэта зрабілі?



НЕ БЯЖЫ ДАЛЕЙ, А ПАДПІШЫСЯ—

НА—




## 2. ЗАДАЧА (дз. М.).

Перастаўіць літары ў клетках фігуры так, каб можна было прачытаць словы, якія маюць значэньні: 1—6 і 1—21— сучасныя дзеячы Беларусі; 2 — 11 — належыць да збруі; 12—15 дрэвы; 16—18 адпачынак; 21—19—20—комуніст. організацыя.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | А | Е | Ё | І | І | Й | 6 |
| 7 | К | К | К | Л | Л | 11 | |
| 12 | Л | М | Н | О | 15 | | |
| 16 | О | С | С | 18 | | | |
| 19 | Ц | Ы | 20 | | | | |
| 21 | Я | | | | | | |

## 3. ЗАДАЧА (дз. М.).

| | | |
|---|---|---|
| 15 | 27 | 18 |
| 9 | 24 | 21 |
| 3 | 15 | 6 |

Перастаўіць гэтыя лічбы так, каб па ўсіх напрамках (уздоўж, уніз і наўкос) была аднолькавая сума—45.

## 4. МОНОГРАМА (дз. М.).

З літарай Г я прыношу спрадвеку
Сьмерць нямінуча зьвяром, чалавеку;
З літарай Х, дарагі сябра мой,
Сільны я надта бываю зімой.
З літарай В—я дужэйшы за ўсіх.
З літарай М—мяне скора ты знойдзеш,
Грошы саюзу у рукі як возьмеш.

(Голад, холад, волат, молат).

РЭБУС



Рэдколегія: Баліцкі А., Брыгневіч Г., Пякарчык А., Сьцяпанаў, Якімовіч А. Адказны рэдактар А. Пякарчык.

Друкарня „БДВ“. У ліку 1700 экз. Заказ № 1526. Галоўлітбел № 784.

